Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

31 кастрычніка— 6 лістапада 1998 года
№ 70 (150)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

ІВАЦЭВІЧЫ

## Маёмасць разграблена. Віноўных пакуль няма

Здаецца, пракуратура Івацэвіцкага раёна зацікавілася справай аб разграбленні падсобнай гаспадаркі ў Гічыцах фірмы "Івацэвічы". 19 кастрычніка на размову ў пракуратуру была запрошана З. М. Кудзінава — былая жонка дырэктара фірмы Уладзіміра Кудзінава, асуджанага да 7 гадоў зняволення ў жніўні 1997 года. Старшы памочнік пракурора Яўген Булаты задаваў Зоі Кудзінавай пытанні, якія тычыліся маёмасці падсобнай гаспадаркі: што там было, што знікла, хто ахоўваў гаспадарку? Дапрошваемая адказала на гэтыя пытанні і яшчэ раз пацвердзіла, што ў свой час у пісьмовай і вуснай форме паведамляла мясцовым уладам аб неабходнасці аховы падсобнай гаспадаркі фірмы "Івацэвічы". Просьба павісла ў паветры, а гаспадарка праз некаторы час была ўшчэнт разграбавана.

Зоя Кудзінава яшчэ раз паставіла перад пракуратурай пытанні аб незаконнай канфіскацыі маёмасці фірмы "Івацэвічы", незаконным продажы офіса аддзелу сацыяльнай абароны насельніцтва райвыканкама, аб кампенсацыі розніцы паміж коштам маёмасці фірмы і штрафамі, якія налічылі ёй падатковыя органы.

З. М. Кудзінава настойліва патрабуе ад пракуратуры ўзбудзіць крымінальную справу па факту разграблення маёмасці фірмы "Івацэвічы".

## У рэжыме простояў

Па-ранейшаму ў рэжыме простояў працуе Івацэвіцкі прыборабудаўнічы завод. Ужо амаль два месяцы большасць рабочых работы не мае — цэхі прастойваюць па адной і той жа прычыне — адсутнасці неабходных матэрыялаў і сыравіны. Людзі ўсё больш гавораць пра нядбайнасць і неадпаведнасць займаемым пасадам кіраўніцтва завода, якое, дарэчы, простояў не мае. Кантора, як гавораць, завода працуе рэгулярна і гэтак жа атрымлівае зарплату.

— Наша кіраўніцтва ведае, што ў рабочых выйсця няма, — гавораць на прыборабудаўнічым заводзе. — У Івацэвічах знайсці работу нялёгка. Вось і даводзіцца цярпець, за запіс у працоўнай кніжцы трымацца ды чакаць з мора пагоды...

## Патрашыцелі "Жыгулёў"

Тры быценскія аўтааматары, якія ездзілі на ўласных "Жыгулях", у скрусе: у адну ноч нейкі зламысьнік зняў з іх машын лабавое шкло.

Адзін з гаспадароў меў сабаку, але якраз у тую ноч вартаўніка двара зачыніў у хляве. Злодзей-патрашыцель высачыў гэта і беспярашкодна дабраўся да аўтамабіля, каб украсці шкло.

Міліцыя шукае злодзеяў. Яны ж не іголка.

## ВОСЕНЬ. КУРЫ НЕ НЯСУЦЦА. КАРОВЫ ЗАПУСКАЮЦЦА

Яшчэ ў савецкія часы за Івацэвічамі трывала замацаваўся тытул горада дэфіцытаў. Здаецца, цяпер сваім званнем наш горад можа падзяліцца з іншымі правінцыяльнымі гарадамі рэгіёна.

У сувязі з расійскім крызісам, які балюча ўдарыў па беларускаму спажыўцу, заліхаманіла дзяржаўны і кааператыўны гандаль.

У Івацэвічах з продажу зніклі яйкі, з цяжкасцю можна купіць смятану, тварожныя сыркі, цукар. Прадаўцы малочнага магазіна сцвярджаюць, што іх заказы на Бярозаўскі сыраробчы камбінат не выконваюцца і малочных прадуктаў прывозяць нашмат менш, чым літаральна месяц назад.

Увогуле, сёння прадукты можна раздзяліць на дзве ўмоўныя групы. Першая — гэта тыя прадукты, якія можна купіць у любым магазіне і на якія ўстаноўлены астранамічныя цэны — рыба розных гатункаў, соль, алей, крупы, і прадукты, кошт на якія істотна не павысіўся, але і купіць якія немагчыма — цукар, смятана, яйкі.

Такое няпростае становішча і ў Бярозе (не ўлічваючы малочныя прадукты, якімі гэты горад забяспечваецца лепш), і асабліва ў Баранавічах, дзе, як перадаюць нашы карэспандэнты, немагчыма купіць нават сметанкова масла. Цікава, што дзяржчыноўнікі дзеніздзе на пытанні спажыўцоў аб яйках і сметанковым масле адказваюць: "Восень. Куры не нясуцца і каровы запускаюцца". Ох, ужо гэтыя беларускія куры і каровы!

# НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

● 2 ЛІСТАПАДА — ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ (ДЗЯДЫ)

## ЗНОЙДЗЕНА КНЯЖАЦКАЯ МАГІЛА?



Надыходзяць Дзяды — звычай з глыбіні стагоддзяў, дзень памяці продкаў, дзень, калі жывыя наведваюць родныя магілы, памінаюць памерлых, моляцца за выратаванне іх душ.

Зноў, як у былыя гады, на старых могілках Бярозы збяруцца людзі, яны ўпрыгожаць магілы, паставяць кветкі... І толькі самотна будзе выглядаць на фоне агульнай урачыстасці старадаўні помнік. Дзесяцігоддзі ніхто ўжо не прыходзіць сюды, да гэтай трохвугольнай стэлы, што ўзвышаецца ў цэнтры могілак. Яе чырвоная цэгла паходзіць яўна з кляштара картэзіянцаў, які знаходзіцца побач. Узнёсласць, шляхетнасць форм сведчаць аб значнасці і знакамітасці асобы пахаванага тут, а невялікія нішы выдаюць яго прыналежнасць да каталіцкага веравызнання.

На думку мясцовых краязнаўцаў, гэта можа быць нават магіла падканцлера Вялікага княства Літоўскага Казіміра Сапегі. Вядома, што ён быў пахаваны ў касцёльным склепе кляштара. Затым, пасля разаграбання касцёла, парэшткі князя некалькі разоў рабаваліся і перазахоўваліся, апошні раз — на гэтых самых могілках. Таму цалкам верагодна, што стэла належыць менавіта яму. Каб гэта даказаць ці абвергнуць — трэба правесці сур'ёзныя даследаванні.

**ЗАЎВАГА.** Казімір Сапега — прадстаўнік вядомага баярска-магнацкага роду. Удзельнік Паляноўскіх мірных перамоў (1634), руска-польскай вайны (1654—1667), падканцлер Вялікага княства Літоўскага, заснавальнік кафедры права ў Вільнюскай акадэміі.

З 1645 года — староста аршанскі, гродзенскі, слонімскі.

БЯРОЗА

## Зноў чэргі

У мінулую нядзелю, 25 кастрычніка, адбыўся традыцыйны восеньскі кірмаш, які міжволі параўноўвалі з сёлетнімі "Дажынкамі". Але нават узгадваючы гэткі ж леташні, кідалася ў вочы збядненне выбару прадукцыі калгасаў. Недзе каля 5 машынаў прадавалі бульбу па 8 тыс. руб. і столькі ж зерне (ячмень і пшаніцу — па 5—7 тыс. руб.). Набылі тое, што хацелі тыя, хто прыйшоў а 7—8 гадзіне, адстаяўшы чаргу. Першымі, як правіла, напаўнялі мяхі з зернем, калгаснікі тых калгасаў, што яго і прывезлі (і на тых жа машынах везлі ў вёску назад). Было нямала і спрэчак. Нехта, дастаяўшыся, хацеў узяць, скажам, 4 мяхі ячменю, а чарга вырашыла прадаваць толькі па два. Разбірацца дапамагала міліцыя, выклікалі "начальства". А 10-й гадзіне (афіцыйны пачатак кірмашу) ні зерня, ні бульбы практычна ўжо не было. Стаялі доўгія чэргі па параўнальна танныя мясныя вырабы і прадукцыю Брэсцкага панчошнага камбіната. Затое насення бульбы, устойлівай супраць хваробаў, набыць было немагчыма. Не было.

## Проезжая мимо...

В Бресте прошло выездное заседание комиссии по делам несовершеннолетних при Совете Министров РБ, цель которого показать работникам образования, внутренних дел, спортивных обществ, как надо организовать работу с детьми и подростками по месту жительства.

Участники заседания одним из маршрутов ознакомления избрали Березу, где в Красных Казармах оборудован детско-юношеский спортивно-эстетический центр. Здесь дети и подростки могут найти себе дело по душе: работают кружки и секции резьбы по дереву, каратэ, макраме, плетения из соломки, есть библиотека. И работникам милиции стало спокойнее. Среди учащихся березовской СШ № 2 меньше стало правонарушителей.

К слову, в новом микрорайоне № 7 рядом с новой больницей детям и подросткам нет чем заняться. Во дворах лишь несколько металлических конструкций с футбольными воротами и баскетбольными щитами. Но не у всех есть мячи, чтобы "постукать".

И недавно группа подростков от 10 до 16 лет из этого микрорайона отличилась. Ночью мальчишки залезли в склад племзавода "Луч", откуда украли 10 мешков муки и 4 мешка комбикорма. Сделали это пацаны, которые и ранее были замечены в правонарушениях. Теперь против них возбуждено уголовное дело.

А министры ездят, проезжая мимо тех микрорайонов, где надо организовать настоящий досуг детей и подростков.

## Каналізацыя дастала...

Не адзін год пакутуюць жыхары дома № 17 па вул. Горына-Капяды ад таго, што гадоў 15 таму пры будаўніцтве іх дома паклалі для сцёку каналізацыі трубу меньшага, чым патрэбна дыяметра. Падвал дома рэгулярна залівае па калена. Пасля званкоў камунальнікі яе адкачваюць, а праз хуткі час усё паўтараецца нанова. Без высокіх рыбацкіх ботаў па падвалу не пройдзеш. Заўсёды гніль, затхласць, вільготнасць, камары круглы год, антысанітарыя. Усё гэта адчуваюць на сабе і жыльцы першага паверху. Куды яны ўжо толькі ні звярталіся, ні званілі. Збіралі подпісы ў райвыканкам. А змяніць нічога не дамагліся, хоць раней у доме жыў сам галоўны ўрач санэпідэмстанцыі. Пасля ж ягонага пераезду ў катэдж згублены апошнія надзеі на перамены да лепшага. Грошай на капрамонт каналізацыі няма.

Гэта ж не абласныя "Дажынкі".

## Гучала скрыпка ў музеі

Цішыню выставачнай залы Баранавіцкага краязнаўчага музея парушыла музыка, яе бездакорнае, напоенае любоўю да кожнага гуку, выкананне. Тут студэнты струннага аддзялення мясцовага музычнага вучылішча і іх выкладчык правялі канцэрт-лекцыю, прысвечаную 90-годдзю з дня нараджэння славутага скрыпача Давіда Ойстраха.

— Такую форму зносін са слухачамі мы выкарыстоўваем не першы год, — сказаў выкладчык вучылішча Анатоль Комар. — Мы прапагандуем скрыпічнае мастацтва, творы, якія калісьці выконваў сусветнавядомы скрыпач.

БАРАНАВІЧЫ

## Не паспелі пакаштаваць парасяціны

З цэха № 5 міжгаспадарчага прадпрыемства "Усходняе" знікла 12 парасят. Па гарачых слядах апэратыўнікі выкрылі аматараў парасяціны. Імі аказаліся слесар і апэратар па вырошчванні свіней гэтага цэха.

Выкармленыя парасяты вернуты на сваё ранейшае месца, спецыялісты-жывёлаводы — у ізалятар часовага ўтрымання.

## "Город в центре Европы"

Так будет называться фильм, который снимает Белорусское телевидение о Барановичах. В 25-минутное повествование войдет репортаж о творчестве самых известных художественных коллективов города и рассказ о продукции ведущих городских предприятий.

Автор сценария Галина Злобенко, соавтор и режиссёр фильма Владимир Орлов задумали фильм как синтез культуры, экономики и социальных отношений.

Владимир Орлов уверен, что главное наше культурное достояние — это люди, поэтому о них будет и фильм.

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, А. ГОРБАЧ (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ, М. СІНКЕВІЧ (Бяроза), А. ЛАЎРАНЮК, М. КУЛІКОВА (Баранавічы).*

**10 снежня — 50 гадоў Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека**

● ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ: ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ, СВАБОДУ...

# А ПАКУЛЬ ... ЗАЦУГЛЯНАЯ СВАБОДА



***Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выказванне іх; гэта права ўключае свабоду беспераШкодна прытрымлівацца і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных межаў.***

(Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека, артыкул 19-ы).

Гэты артыкул (маецца на ўвазе 19-ы) міжволі скіраваў мае думкі ў мінулае, павярнуў мяне тварам да Творцы Сусвету.

Усемагутны Бог дараваў чалавецтву свабоду. Як жа мы, людзі, распараджаемся гэтым бясцэнным дарам?

Па-рознаму, аказваецца. Уладу маючыя, імператары, цары, каралі, князі, пазней — генсекі, розныя марксісты, ленінцы і г. д. кралі, не інакш, даравaную свабоду. Ім так хацелася ў кожным чалавеку бачыць раба, без асабістых перакананняў і поглядаў. Словам, бачыць бязмоўнага раба. А калі ён асмельваўся раскрыць рот, яго тут жа затыкалі. І даволі груба, жорстка.

Памяць чалавечая, думаецца, не заснула назусім (хаця тэндэнцыя да зацяжной спячкі апошнім часам узмацнілася). Было ж: вольную частушку праспяваў, выказаўся свабодна ў адрас бацькі Сталіна ці іншага ўладара — збірай манаткі на Салаўкі ці на Калыму. Або...

Жыла ў маёй вёсачцы цётка Дуся. Спакойная, прыветлівая. Прыслужвала пасля вайны ў аднаго ваеннага чыноўніка. Вярнулася аднойчы ад родзічаў, і, не падумаўшы, вазьмі і ляпні, што яе землякоў у калгас сілком сталінскія служкі заганяюць. Гэтага хапіла, каб службіст тут жа выпісаў ёй "камандзіроўку" — у псіхушку. Адтуль усё-такі цётка вярнулася. Але нейкая дзіўная. Нібы анямела. Маўчухай на той свет так і пайшла.

Уладары, галоўныя і менш вядомыя, таксама паўміралі. Што ўзводзілі яны, у момант рухнула, бы хаціна з пяску. І таму, можа, прымусовае, на насіллі пабудаванае, насуперак Боскаму дару — не вечнае.

Час змяніўся. Наколькі? Скажам, у адносінах правоў чалавека на свабоду перакананняў і свабоднае выказванне іх? Тое, што аўтар дадзенага артыкула гаворыць пра гэта, не думаючы (магчыма, пакуль) пра Салаўкі, — маленькая прыступка той вялікай лесвіцы, што вядзе да сапраўднай свабоды. Але чаму ж з агаворкай, з прытоеным уздыхам пішуцца радкі гэтыя?

Бо многае незразумела. Варта паглядзець беларускае тэлебачанне, паслухаць рэспубліканскае радыё. Не, я не адмаўляю, там прысутнічае, праўда, не пастаянна, шчырае і свабоднае слова. Але часцей за ўсё людзей з іншымі перакананнямі, якія не адпавядаюць афіцыйнаму курсу, туды не дапускаюць. Я, тэлегледач і радыёслухач, не чую выступленняў палітыкаў апазіцыйных партый, рухаў, вольных навукоўцаў, пісьменнікаў, дзеячаў культуры, якія б выказвалі свае погляды на сучасныя падзеі, што адбываюцца ў Беларусі.

А сказаць людзям ёсць што. Узяць хаця б усебеларускія дажынкі. Не, я не супраць ушанавання хлебаробаў, хлеб якіх, здабыты працавітымі рукамі, штодзённа ямо. Уражвае і ў той жа час абурае іншае. Колькі чыноўнікаў прыладкавалася да славы сапраўды слаўных. Аказваецца, у нашым раёне не знайшлося (няўжо?) ніводнага сельскага працаўніка, чыю працу адзначылі б на дажынках у Бярозе. Затое прэміі атрымалі начальнікі.

І яшчэ. Колькі грошай было патрачана дый праліта! А тым часам многія старыя людзі ў жабрацкім адзенні разграбаюць у скрынках смецце з надзеяй знайсці там што-небудзь з ежы. Наогул, ці патрэбны ў такім маштабе відовішчы? Сказаць добрае слова кожнаму ўдзельніку жніва, ушанаваць іх у мясцовай гаспадарцы — справа, думаю, больш чалавечая і нашмат таннейшая. Але, як сказаў поп, так і прыхаджане паўтараюць. А ці ўсе? Аднак з тэлеперадач чую толькі "ура!" ініцыятару і натхняльніку ўсебеларускіх дажынак, "Славянскіх базараў".

Любяць гуляць! Любяць! Хоць многія стогнуць і плачуць. Мне, як грамадзянцы Беларусі, хочацца ведаць, колькі грошай, нашых грошай, затрачваецца на ўсялякія відовішчы? Дзе прачытаць аб'ектыўную інфармацыю?

На жаль, у афіцыйных сродках масавай інфармацыі шмат што скажаецца. Прывяду такі прыклад. Рыхтаваўся дэкрэт прэзідэнта аб узмацненні дысцыпліны ў працоўных калектывах. Арганізавалі абмеркаванне яго. Якім было яно? Афіцыйная прэса, для прыкладу, мясцовая газета "Івацэвіцкі веснік", якую фінансуе дзяржава, паведаміла, што працаўнікі раёна аднадушна падтрымалі прэзідэнцкі дэкрэт. Падпісчыкі прачыталі і, пэўна, паверылі такой інфармацыі.

А вось у "Газеце для вас" я прачытала іншае. На прыборабудаўнічым заводзе, газакампрэсарнай станцыі, у іншых калектывах большасць людзей галасавалі супраць дэкрэта.

Відавочна: свабодны друк і залежны ад афіцыйных уладаў — гэта не адно і тое ж. На жаль, свабодныя СМІ не ў пашане тых, хто пры ўладзе. Апошнія хочуць чуць тое, што лашчыць іх слых. Пэўна таму я ні па тэлебачанні, ні з афіцыйнага друку не магу атрымаць поўную інфармацыю па многіх пытаннях, у прыватнасці такіх: чаму пенсіянеры з кожным годам жывуць горш, чаму многія рабочыя атрымліваюць мізэрныя зарплаты, чаму радавыя настаўнікі, урачы зарабляюць крыху больш за пенсіянераў, чаму жыруе мноства чыноўнікаў? Чаму?.. А мне забіваюць галаву нейкай стабілізацыяй, тым, што ў Беларусі, маўляў, усё цудоўна.

А ці цудоўна? Купіць зараз бутэльку алею — 200—240 тысяч руб., 1 кг. манкі — 100—120 тыс. руб., рысу — 90—100 тыс. руб. І, лічы, паўмільёна няма. Заплаціць за кватэру, святло, газ, купіць лекаў і — плакала твая пенсія ў 2 мільёны рублёў. Плачуць нашыя кашалькі і ад абвалу ў Расіі, ад неразумнай інтэграцыі Беларусі з гэтым ненадзейным суседам. Чаму маўчаць аб гэтым галоўныя інтэгратары? Замест праўды прыдворныя спевакі пяюць іншыя песні. Таму і гавару: артыкул 19 Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека ў Беларусі не выконваецца так, як гэты дакумент таго патрабуе.

***Н. ЧЫКІТА,***
***жыхарка г. Івацэвічы.***

# ЯК КУДЗІНАВА ЗАСУДЗІЛІ



***Кожны чалавек, для вызначэння яго правоў і абавязкаў і для ўстанаўлення абгрунтаванасці прад'яўленага яму крымінальнага абвінавачвання, мае права, на аснове поўнай роўнасці, на тое, каб яго справа была разгледжана публічна і з захаваннем усіх патрабаванняў справядлівасці незалежным і справядлівым судом.***

(Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека, артыкул 10-ы).

Гавараць сёння пра справядлівы суд не паварочваецца язык. Чаму я так катэгарычна заяўляю? Ды таму, што гэта вельмі яскрава паказала судовая справа майго былога мужа Уладзіміра Кудзінава. Коратка напомню нашым чытачам сутнасць таго, што адбылося.

4 лютага мінулага года каля гадзіны ночы мне пазваніў шафёр В. Г. Корзан і папрасіў паклікаць Кудзінава. Корзан паведаміў, што іх машыну з мясам затрымалі на пасту ДАІ г. Барысава і сказалі, што толькі сам дырэктар зможа вырашыць пытанне аб пропуску аўтамабіля. Тады Уладзімір Аляксеевіч працаваў дырэктарам фірмы "Івацэвічы". Машына з гэтай фірмы, зададзеная ў арэнду, і была затрымана. Кудзінаў папрасіў мяне той ноччу выехаць на маёй машыне ў г. Барысаў.

Каля пяці гадзін раніцы мы былі на месцы. Груз (ялавічына), якім была запоўнена машына, належаў зусім іншай фірме. Перагаварыўшы з работнікамі ДАІ, Кудзінаў упэўніўся, што тут нешта няладнае. І перагавораў толкам не вядуць, нешта адкладваюць, скардзяцца на нізкую зарплату, шукаюць і клапатлівую работу. А кончылася ўсё тым, што інсцэніравалі спробу дачы хабару Кудзінавым аднаму з міліцыянераў. Кудзінава адразу арыштавалі і павялі як быццам злачынцу-рэцыдывіста. І мяне многа гадзін пратрымалі ў міліцыі, забраўшы дакументы.

Як дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, згодна з заканадаўствам, Кудзінава не мелі права арыштоўваць. Але міліцэйскае самавольства мацней за закон.

Пра ўсё гэта я напісала ў заяве на імя Генеральнага пракурора і прасіла прыняць мяне. Але ён адмовіўся. Адказу на маю заяву не даў да сённяшняга дня. Вось такія "клопаты" аб грамадзянах.

Тады я пабывала на прыёме ў намесніка старшыні ніжняй палаты Вярхоўнага Савета В. Н. Канаплёва, якому расказала аб тым, што здарылася. Ён толькі паспачуваў мне. Пры гэтым я звярнула ўвагу на тое, што, калі справа станоўча не вырашыцца, буду звяртацца па дапамогу да міжнароднай грамадскасці і незалежнай прэсы. Канаплёў мне рабіць гэта адраіў, сказаўшы, што гэта можа толькі нашкодзіць справе і Кудзінава могуць пасадзіць за турэмныя краты. І я паверыла чыноўніку. І толькі пасля суда я зразумела, якое глупства зрабіла. Хіба можна верыць падобным канаплёвым?

Пачалося следства. Яно таксама вялося з грубымі парушэннямі ўсіх законаў. Напрыклад, пратаколы складаліся пазней, пасля арышту, перапісваліся і зноў падпісваліся. Мяняліся паказанні сведак. Следствам не былі даследаваны акалічнасці справы і не вывучаліся прычыны парушэння заканадаўства нашай рэспублікі работнікамі Барысаўскага райаддзела міліцыі і АБЭП. Пры падтрыманні абвінавачвання дзяржаўным абвінаваўцам былі выкарыстаны толькі паказанні зацікаўленых асоб міліцыянераў Аніськовіча і Чарнухі. Іншых якіх-небудзь доказаў абвінавачвання суду не было прадстаўлена. Дарэчы, паказанні Аніськовіча і Чарнухі, дадзеныя імі ў час папярэдняга следства і на судзе, супярэчлівыя і не маглі ўстанавіць ісціну аб тых падзеях, што адбываліся 4 лютага 1997 года на пасту ДАІ. Затое яны атрымалі павышэнне па службе.

У час судовага разбіральніцтва суд у парушэнне артыкула 15 Крымінальнага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь неўсебакова і неаб'ектыўна даследаваў акалічнасці справы. Судом выяўляліся акалічнасці справы, якія толькі абвінавачвалі Кудзінава. Напрыклад, на судовым паседжанні 22 ліпеня 1997 года Кудзінаў заявіў хадатайства аб выкліку дадатковых васьмі сведкаў, паказанні якіх істотна паўплывалі б на акалічнасці справы. Аднак судом хадатайства было задаволена часткова — у суд выклікалі толькі трох сведак...

Словам, суд ператварыўся ў судзілішча, дзе справядлівыя довады і заявы Кудзінава не ўлічваліся, хаця закон патрабуе ўлічваць усё, што магло б паўплываць на вынікі разглядаемай справы.

Справу Кудзінава разглядаў і абласны, і Вярхоўны суды. Усё засталося па-ранейшаму. Тыя ж сем гадоў турэмнага зняволення строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Ніхто не ўнікаў у сутнасць справы, ніхто не пажадаў вяртацца да новага разгляду. Патрэбна было, як і загадалі "зверху", пасадзіць непажаданага дэпутата, які падпісаў дакумент аб імпічменце беларускаму прэзідэнту, за турэмныя краты.

Калі гаварыць карацей, то і пры даследаванні, і пры разглядзе справы ў судзе парушана заканадаўства нашай краіны, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, артыкул 60-ы, дзе сказана, што "кожнаму гарантуецца абарона яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны..."

Што ж тычыцца Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, то склалася ўражанне, што ні следчыя, ні работнікі пракуратуры, а тым больш судоў наогул не знаёмы з гэтым дакументам. Беларусь, падпісаўшы Дэкларацыю, сама і парушае яе. У гэтым я яшчэ раз упэўнілася ў так званай крымінальнай справе Кудзінава.

***Зоя Міхайлаўна КУДЗІНАВА,***
***жыхарка г. Івацэвічы.***



***В колхозе "Заря" Ивацевичского района (как, впрочем, и во многих других хозяйствах) не сумели своевременно убрать картофель своими силами. А на дворе — уже конец октября. Помогать позвали безработных и всех желающих из Ивацевич. За день каждый из них зарабатывал тысяч 60 (на полкило вареной колбасы или 5 булок хлеба). Но каждый же из них увозил вечером ведро-два картофеля (на 150-200 тысяч рублей). Кто они — эти люди? Воры или обманутые и обокраденные советской и постсоветской системой? Думаем — это риторический вопрос!***

*ТОЧКА ЗРЕНИЯ*

# ВСЕ ВОКРУГ КОЛХОЗНОЕ, ВСЕ ВОКРУГ МОЕ?

Письма в редакцию приходят часто. Разные. Но все дышат реальной жизнью, когда поднаторевшие, измученные нашей обыденностью люди о чем-то просят, советуют, предупреждают. Авторы этих писем знают, по какой тропе они ходят и имеют сильный иммунитет к любым, даже самым грубым проявлениям бытия. Письмо же, полученное от Геннадия Н., о воровстве в колхозах и совхозах, дышит такой наивностью и невинностью, что хочется спросить его об одном: "Как же ты устроишься в этой реальной жизни, парень?"

Геннадий Н. поражается и недоумевает: зачем колхозы садят столько картофеля, что сами его убрать не могут? Почему позволяют уносить (т. е. воровать) с трудом выращенный урожай?

Итак, воровство. Почему мы воруем? В какой степени воруем? Воруем или просто берем положенное, но не полученное? Давайте разберемся вместе.

В автобус, направляющийся на уборочные работы в колхоз, по расчетам написавшего нам Геннадия Н., заходит в среднем 40 человек. Отработав день, получив оплату за сделанное, каждый из них увозит в своем рабочем ведре как минимум 8 кг картошки.

Такая бригада, по расчетам Геннадия Н., украдет в день как минимум 320 кг картофеля — на 2 млн. 560 тысяч рублей, а в месяц — 9,6 тонны и 76,8 миллиона рублей.

Если рассуждать чисто внешне, то действительно эти граждане, отправляющиеся от Ивацевичского центра занятости на подмогу колхозам и совхозам, — безбожные ворюги и, будто помогая, прилично "подкосят" принимающий их колхоз-совхоз. Уж 80 миллионов-то на дороге не валяются. Да вот только...

Кто из нас, положа на сердце руку, скажет, что не сделал бы то же самое? Как бросить камень в людей, которые едут на работу, где им заплатят такую сумму, за какую можно только пообедать? А ведь дома их ждут семьи, дети, которых надо бы чем-то тоже кормить. Что делать? Кто виноват?

XXX

Зациклить наш разговор пределами Ивацевичского района было бы неразумно. Воровство в нашем славянском мире несоизмеримо ни в пространстве, ни во времени. Вспомните ответ Н. Карамзина на вопрос о состоянии дел в России. Он сказал: "Воруем". Вспомните досаду тургеневского героя на то, что все в Российской империи гибнет от того, "что оказывается недостаток в честных людях". Или единственно верное высказывание Л. Брежнева в том смысле, что не так плохо живет советский крестьянин, потому что он, если чего не хватает, может того... украсть.

Сами же колхозы-совхозы опять-таки бесконечная тема для остроумия. "Все вокруг колхозное, все вокруг мое", — говорят сегодня усмехаясь. Только слабоумный не ответит вам, что надо делать, "каб заўсёды жыць у шчасці". Угрызения совести мучают сегодня только поэтов и прочих романтиков:

— Дай Бог
не вляпаться во власть
И не геройствовать
подложно,
И быть **богатым,**
**но не красть,**
Конечно, если
так возможно, —

пишет Е. Евтушенко.

"Как можно быть богатым, но не красть?" — пожмет плечами среднестатистический белорус. Заедьте в любую деревню. Кто в ней новые белорусы? Да председатель колхоза, администрация. Откуда у них машины, деньги, обстановка, за какие деньги их дети учатся в платных вузах, если зарплата у этого начальства не больше, чем у работающего тракториста, не имеющего ничего, кроме велосипеда, телогрейки, черно-белого телевизора да детей в ПТУ. Пусть ваша фантазия подскажет — откуда.

XXX

Воровство пронизало всю нашу жизнь. Непонятная роль государственной собственности, когда она принадлежит всем, но не принадлежит конкретному человеку, породила этот удивительный статус советского и постсоветского человека то ли простого берущего свое, то ли ворующего.

Причем, мы настолько незаметно всосали эти воровские качества, что нам они кажутся самыми естественными.

Примеры? Пожалуйста!

Сегодня ведь никто не удивляется, что "иномарки", хлынувшие к нам из-за границы, сами автолюбители принципиально делят на дизельные и бензиновые. Первые — любимые и хорошо покупаются, вторые — не очень. Почему? Любой автолюбитель вам просто скажет, что дизельное топливо легко достать, то есть, если говорить строго, — украсть, а бензин покупать надо. Только рот раскрой — и армия сельхозработников укрinfluence вам дизтопливо в необходимом количестве. Сегодня на заправляющегося дизельным топливом на автозаправке местного автолюбителя смотрят как на сумасшедшего. Среди местных автолюбителей найдите, уважаемый читатель, хоть одного, кто, имея автомобиль с дизельным двигателем, заправляется на заправке. Не найдете!

Приглядитесь внимательно к нашей жизни. Вы увидите, что подобного рода "нечистоплотности" пронизали весь наш быт. Вся деревня смеется над трактористом, который выписывает трактор (то есть делает все законно), чтобы перепахать поле, когда можно это сделать без всякого спроса; над лесником, который выписывает дрова, когда опять-таки можно их просто украсть.

Вам никогда не приходило в голову, уважаемый читатель, почему, так презирая все колхозное, называя любого неудачника — колхозником, наш простой народ дыбом встает, чтоб, не дай Бог, колхозы не исчезли. Попробуйте догадаться.

XXX

Но не спешите обвинять сельский люд в безбожном корыстолюбии. Глядя на лица наших сельчан, бурые, загорелые, безрадостные, никак не хочется вешать на этих людей воровской ярлык.

Частное и колхозное в деревне: какая форма перспективнее, сильнее? Невзирая на бесконечные споры между коммунистами и демократами, народ-то свой выбор сделал. Причем очень даже давно. Так давно, что просто непонятно: о чем так принципиально спорят люди? Почему за принципами эти ортодоксы не видят цифр. Очень красноречивых цифр.

Один пример из нашей реальной жизни.

На 1-ое октября 1998 года по данным отдела статистики в хозяйствах района содержится 5575 свиней. Много это или мало? В частных хозяйствах (не имея данных на это же число, приведу на 1 января 1998) — 17114. Объясните мне, уважаемый читатель, кто кормит, снабжает страну свининой? Кому мы должны быть благодарны за то, что можем безбоязненно смотреть в будущее? Частнику! Если бы на сегодняшний день (боже упаси такое представить!) исчезло частное хозяйство, то нас неминуемо ожидал бы голод и хаос. Привязанность же частника к колхозу — целевая, конкретная: там есть корма для скотины, которые можно, скажем так, взять. В этом практическом интересе — весь смысл поддержки народом колхозов, а не в необыкновенной идейности колхозника, как думают некоторые товарищи.

Таким образом, колхознегласная форма дотации частника государством. Во всем мире государство поддерживает частника. У нас законно и официально это не делается. Люди это делают сами, вынося и увозя из колхоза все, что можно. Такие уродливые формы дотаций заставляют людей быть двуличными, и лучше других в этой системе живут горластые, хитрые, двуличные. А скромные, простодушные люди, которых мучает совесть, вроде написавшего нам Геннадия Н., чувствуют себя, увы, изгоями...

XXX

Что касается вопроса Геннадия Н. о том, зачем колхозы садят столько картофеля, что сами его убрать не могут, то это — тема для другого, очень большого разговора. Скажу только, что убрать урожай они не могут не потому, что много садят. Из 2500 хозяйств в республике на сегодняшний день более 2000 — банкроты...

*А. ГОРБАЧ.*

*г. Ивацевичи.*

*ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ...*

# У Бярозе Картузскай



**(Працяг. Пачатак у №№ 68, 69).**

## У "штабе" ў "каменданта" Грэфнера

Падінспектар Дзяржаўнай Паліцыі Ян Грэфнер, былы намеснік каменданта паліцыі горада Познань, міністрам Унутраных Спраў быў назначаны на пасаду каменданта "Мейсца Одособнення" ў Бярозе Картузскай. Накіроўваюся да яго, каб атрымаць дазвол наведаць лагер і паназіраць, у якіх умовах жывуць і працуюць "ізаляваныя".

Некалькі мінут па поўдні. Падыходжу да паліцэйскага, які стаіць на варце перад галоўным уваходам у лагер. Вязняў ужо няма, відаць, пайшлі на абед.

Паліцэйскі затрымоўвае мяне. Выясняе, што я маю асабістую справу да каменданта лагера. Доўга і скрупулёзна вывучае мае дакументы, нарэшце аддае іх мне назад.

Даведваюся, што каменданта зараз у лагеры няма, будзе ў пятнаццаць гадзін.

Стараюся меней хадзіць па горадзе, каб не звяртаць на сябе ўвагу паліцэйскіх, якіх тут назвыкла многа. Тры гадзіны, што мне трэба чакаць да сустрэчы з камендантам лагера, праводжу ў адзіным гарадскім рэстаране.

У 15 гадзін ізноў стаю перад лагернай брамай. Вязні працуюць зноў пад такой жа чулай апекай шматлікіх паліцэйскіх.

Яшчэ раз прабягаюся позіркам па тварах вязняў. Усе яны маюць адбітак змораnасці і апатыі. Лапаты без перапынку заглыбляюцца ў зямлю і выкідаюць яе да паркана.

У тую хвіліну, калі я ўжо падышоў да вартаўніка ля брамы, з'явіўся нейкі падкамісар паліцыі. Бліжэйшы да яго вязень, чалавек сталы, даволі рослы бландын у акулярах, звярнуўся ў бок ідучага падкамісара са словамі:

— Пане камісару. Гэтая лапата зацяжкая для мяне, ці магу я папрасіць якую іншую прыладу працы?

Адказу не пачуў. Паліцэйскі, пільнуючы вязняў, зрабіў нейкі рух рукой і "ізаляваны" зноў узяўся за сваю працу.

Мне паведамілі, што камендант лагера знаходзіцца ў будынку на процілеглым боку шашы. Гэта даўнейшае вайсковае казіно, невялічкі чырвоны домік, абкружаны паркам. Зараз тут размяшчаецца "канцылярыя" лагера і гарадскі аддзел вайсковай падрыхтоўкі. Так, прынамсі, напісана на прыбітай ля брамы шыльдачцы.

Свежы надпіс перад уваходам засцерагае: "Уваход строга забаронены".

Дом робіць уражанне зусім нежылога. Усе калідоры пустыя, пакоі, здаецца, таксама. З аднаго боку сяней знаходзіцца тэлефонны камутатар, з другога — апартаменты пана Грэфнера.

Паліцэйскі паказаў мне дарогу. Пакой каменданта лагера размяшчаецца на другім паверсе.

Перад дзвярыма няма вартаўніка, стукаю, уваходжу. У пана тры асобы. За вялізным сталом сядзіць рослы мужчына прыблізна саракагадовага ўзросту з усмешкай на шырокім поўным твары. Апрануты ў мундзір падінспектара паліцыі. На супрацьлеглым боку стала — малодшы пан у цывільнай вопратцы са свідруючымі вачыма. Трэці пан сядзіць воддаль.

— Ці магу я паразмаўляць з інспектарам Грэфнерам? — звяртаюся да прысутных.

Пан у паліцэйскім мундзіры крыху прыпадняўся над сталом і пранікліва агледзеў мяне.

— Пан з Варшавы?

— Так, журналіст з...

— То мы тут ужо пана чакаем! — сказаў падінспектар. — Я даў даручэнне, каб пана да нас запрасілі.

На маё пытанне, выражаючае здзіўленне, адкуль я раптам стаў прадметам гэткай заклапочанасці, адкуль увогуле вядома пра маё прабыванне ў Бярозе, пачуў адказ:

— Мы ведаем!

Маім суразмоўцам з'яўляецца інспектар Грэфнер.

Знаёмлю з мэтай свайго прыбыцця. Прашу аб дазволе наведаць лагер, кажу, што хацеў бы азнаёміцца з умовамі працы вязняў, а таксама атрымаць адказ на тры пытанні:

1) якім распарадкам рэгулюецца жыццё вязняў;

2) якое яны атрымліваюць харчаванне;

3) ці абследуюцца вязні доктарам перад пачаткам прымусовых работ.

Інспектар маўчыць хвіліну і адказвае з усмешкай:

— Я пану дазволу на наведванне лагера не дам і адказу на гэтыя пытанні таксама! Але магу пану параіць: няхай пан звернецца з гэтым да пана ваяводы Костка-Бернацкага!

Я ўсміхнуўся.

— Думаю, — сказаў інспектар, — што пан гэтым не скарыстаецца.

Спрабую пераканаць пана Грэфнера, што дазвол наведаць лагер павінен уваходзіць нават і ў яго інтарэсы, бо, калі нічога дрэннага вязням не робіцца, то лепей паінфармаваць аб гэтым грамадства. Але мае высілкі не мелі поспеху.

Тут у пакой увайшоў паліцэйскі і хацеў нешта паведаміць. Інспектар перабіў яго:

— Пан не знайшоў пана рэдактара, а тым часам ён сам тут з'явіўся!

Паліцэйскі апраўдваўся.

Інспектар Грэфнер увесь час усміхаецца, вясёлы і дасціпны. Калі размова кранулася харчавання вязняў, паведаміў з усмешкай:

— На снеданне яны маюць шакалад і булкі...

У "штабе" ізаляцыйнага лагера для палітычных вязняў, сасланых адміністрацыйна, без суда, на работы ў палескія балоты, пануе вясёлы настрой.

*Вацлаў ЧАРНЕЦКІ.*

*"Рабочы" (Варшава)*

***за 13, 15, 17, 18 ліпеня 1934 г.***

***Пераклаў з польскай мовы М. СІНКЕВІЧ.***

**(Заканчэнне будзе).**

